*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак* БАГУШЭВІЧ




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

**№ 46 (154)**

17 лістапада 1993 г.

Кошт — 5 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



*9 ЛІСТАПАДА ПАЧАЛА ПРАЦУ ТРЫНАЦЦАТАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. З дакладамі аб шляхах выхаду рэспублікі з крызіснай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі выступілі Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шушкевіч і Старшыня Савета Міністраў В. Кебіч. Даклады надрукаваны ў рэспубліканскіх газетах. Ці стануць даклады выпушчаным парам, ці будуць праграмай выратавання краіны — пакажа час. А пакуль што, як і раней, дэпутаты шмат выступаюць і большасць з іх з аглядкай на Маскву. Колькі можна глядзець у спіну краіне, якая ідзе па шляху рынačнай эканомікі!*

АДБЫЛОСЯ НЕЧАРГОВАЕ ПАСЯДЖЭННЕ АНТЫКРЫЗІСНАГА КАМІТЭТА, створанага ў сакавіку 1992 года з мэтай абароны дзяржаўнага суверэнітэту краіны. Удзельнікі пасяджэння аднадушна выказалі недавер старшыні Антыкрызіснага камітэта В. Кебічу і знялі яго з гэтай пасады.

ДЭПУТАТЫ МЕНСКАГА ГАРАДСКОГА САВЕТА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ ЗМЯСЦІЛІ Ў РЭСПУБЛІКАНСКІМ ДРУКУ ЗАЯВУ, у якой, у прыватнасці, гаворыцца: «5 лістапада 1993 года Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў беспрэцэдэнтны антыдэмакратычны зварот «Да грамадзян Рэспублікі Беларусь», у якім, на падставе чутак, грамадзян спрабуюць запалохаць «масавымі беспарадкамі і незаконнымі дзеяннямі». Мы разглядаем зварот Савета Міністраў як канкрэтныя крокі, скіраваныя на распальванне нацыянальнай і сацыяльнай варожасці, увядзенне жорсткай цэнзуры на сродкі масавай інфармацыі, узмацненне напружанасці і страху ў грамадстве, якія і так існуюць з-за мафіёзных структур і росту злачыннасці. З дапамогай зброі, кантролю над сродкамі масавай інфармацыі, пагрозы рэпрэсій над партыямі, рухамі, прафсаюзамі Савет Міністраў спрабуе адгарадзіцца ад збяднелага грамадства і любой цаной утрымацца на сваіх крэслах».

*АДБЫЛОСЯ ПАСЯДЖЭННЕ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ПА ДЗЯРЖАЎНАМУ БУДАЎНІЦТВУ, на якім былі прааналізаваны вынікі работы па стварэнню новага выбарчага закона. Так, выбарчымі блокамі могуць вылучацца толькі члены палітычных партый, якія ўваходзяць у гэты блок. Выключаючца выбары ад грамадскіх арганізацый, але такое права застаецца за працоўнымі калектывамі. Кандыдатуры могуць вылучацца не толькі на сходах па месцы пражывання, але і шляхам збору подпісаў выбаршчыкаў праз ініцыятыўную групу. У выбарчым законе ёсць яшчэ змяненні, але ці будуць выбары вясной 1994 года?*

*Падпіска-94*

## Пра нас зноў «забыліся»...

З 1 кастрычніка на Украіне пачалася падпіска на перыёдыку на першае паўгоддзе наступнага года. Падпіска няпростая. Мяркуйце самі: самая папулярная газета «Голас Украіны» (выходзіць 5 разоў на тыдзень) каштуе прыкладна 60 тыс. карбованцаў! А самая «дарагая» газета — расійскамоўная «Деловая Украина» каштуе аж 84 тыс. карбованцаў. З 1994 года гарадская газета сталіцы Украіны «Вечірний Київ» будзе выдавацца толькі на дзяржаўнай (украінскай) мове. Кошт не таксама немаленькі — 80 244 карбованцы!.. Відаць, падпіска для многіх жыхароў краіны будзе проста не па кішэні. Праўда, за ўкраінскія карбованцы можна выпісаць газеты і часопісы Расіі. Іх нямала: 42 газеты і 36 часопісаў, кошт даступны.

Як быццам расійскія паштавікі паклапаціліся пра тое, каб «русскоязычное население» суседняй Украіны не засталося без прэсы з Расіі. Але ўкраінская расійскамоўная прэса (у адрозненне ад расійскамоўнай прэсы Беларусі) не выступае супраць дзяржаўнасці ўкраінскай мовы, за нейкае недарэчнае «двухмоўе», альбо супраць самастойнасці і незалежнасці краіны, за ўцягненне краіны ў «канфедэрацыю» з Расіяй.

На жаль, я не знайшоў ва ўкраінскім каталогу газет і часопісаў Беларусі, якія можна было б выпісаць за ўкраінскія карбованцы. Няма іх і ў каталогу з Расіі. Але нават калі б і былі, то ўсё, што ёсць у расійскім каталогу, на Украіне можна выпісаць толькі за... расійскія рублі! А дзе іх узяць, гэтыя рублі, калі на Украіне мы паспелі забыцца нават пра іх выгляд...

У гарадскім агенцтве «Укрдрук» мне паведамілі, што атрыманы «Дадатак № 1» да расійскага каталога, дзе беларускія газеты і часопісы ёсць. Але радасць была заўчаснай, бо спіс беларускай перыёдыкі вельмі абмежаваны: 10 газет і 28 часопісаў. З іх на беларускай мове — шэсць газет («Голас Радзімы», «Звязда», «Культура», «Наша слова», «Наша ніва», «Свабода»), чатыры газеты расійскамоўныя («Белорусский рынок», «Вестник футболофила», «Набат», «Детектив»). Што да часопісаў, то беларускамоўных тут — кот наплакаў: «Беларусь», «Полымя», «Весці Акадэміі аграрных навук». Астатнія — на мове суседняй дзяржавы альбо «гібрыдныя» — на беларускай і рускай мовах адначасова: «Работніца і сялянка», «Гаспадыня», «Бюлетэнь нарматыўна-прававой інфармацыі», «Весці АН Беларусі». Вось і ўсё.

Шкада, што я не знайшоў у гэтым спісе такіх цікавых выданняў, як «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», «Спадчына», «Беларуская мінуўшчына», «Беларускі гістарычны часопіс», «Роднае слова», «Маладосць», «Першацвет», «Бярозка», «Вясёлка», «Пралеска», «Вожык», «Родная прырода»...

Вырашыў, што падпішуся на тры газеты: «Голас Радзімы», «Наша слова» і «Звязду», памяняўшы ў ашчадным банку ўкраінскія карбованцы на расійскія рублі па курсу 10:1. Але мне адказалі, што «падпіска на беларускія газеты прымаецца толькі на тэрыторыі Расіі».

Вось так мы, беларусы далёкага і блізкага замежжа, зноў засталіся на 1994 год без беларускіх выданняў! І як тут не ўспомніць мне, дэлегату Першага з'езда беларусаў свету, колькі слоў было сказана на «круглым стале» «Беларуская дыяспара», дзе прымаўся «Зварот да парламента і ўрада Рэспублікі Беларусь», у якім запісана: «Забяспечыць магчымасць для беларусаў замежжа падпіскі на перыядычныя і падпісныя выданні, што выходзяць у Беларусі». Як бачым, зварот не «дайшоў» ні да парламента, ні да ўрада.

Дык хто ж адкажа нам, украінскім беларусам, як нам афарміць падпіску на газеты і часопісы Беларусі?

Пятрусь КАПЧЫК,
філолаг.

г. Ізяслаў.

## Задачкі нацыянальнага выжывання часоў незалежнасці

*Вядома: 1) у Беларусі не хапае энергарэсурсаў і з гэтай нагоды той-сёй прапануе прадацца «старэйшаму брату»;*
*2) на адзінку валавога нацыянальнага прадукту (ВНП) нашы прадпрыемствы затрачваюць, па сведчанні спецыялістаў, у два разы больш электраэнергіі, чым у перадавых краінах;*
*3) Беларусь мае 6 мільёнаў кілават электрамагутнасцей і пры сённяшнім стане спраў ёй не хапае яшчэ 2 мільёны.*
*Неабходна вызначыць: гэта ўсё нарабіла беларуская мова і наша кволая нацыянальная незалежнасць? І за якую цану і каму беларусаў трэба прадаць, каб хапіла на панскае жыццё не толькі цяперашнім звышінтэрнацыяналістам, але і іх дзецям?*

## «Наша слова» ў Магілёве чытаюць

Арганізатары прызналіся: яны не чакалі, што зала гарадскога Дома культуры акажацца практычна поўнай. Усё ж тэма вечарыны, якую прапанавала «Магілёўская гасцёўня» была па нядаўніх кампартыйных мерках «нацыяналістычная» — адзначыць 110-годдзе з дня нараджэння Вацлава Ластоўскага і абмяняцца думкамі пра газету «Наша слова».

Пра жыццё і дзейнасць выдатнага дзеяча беларускага Адраджэння расказалі выкладчык Магілёўскага педінстытута Алесь Макарэвіч і старшыня абласной філіі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Алесь Сердзюкоў.

Сказаў пра цярністы шлях В. Ластоўскага і галоўны рэдактар «Нашага слова» Эрнест Ялугін. Яму давялося адказваць на шматлікія пытанні прысутных аб змесце газеты, пазіцыі рэдакцыі па розных пытаннях грамадска-палітычнага жыцця Беларусі, планах публікацый. Урэшце высветлілася, што ў Магілёве «Наша слова» ведаюць, чытаюць і жадаюць газеце і надалей быць у авангардзе змагання за нацыянальнае Адраджэнне.

Напрыканцы са сцэны Дома культуры прагучалі прыгожыя беларускія народныя песні ў выкананні фальклорнага гурта «Крыніца» СШ № 13 г. Магілёва.

Арганізавалі вечарыну гарадскі Дом культуры і Магілёўская філія Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра пры актыўным удзеле ў падрыхтоўцы сяброў Таварыства беларускай мовы ды мясцовых філій БСДГ і БНФ.

Юрась ПІВУНОЎ.

*ПАДПІСНАЯ КАМПАНІЯ НА ПЕРШЫ КВАРТАЛ 1994 ГОДА ПРАЦЯГНУТА ДА 1 СНЕЖНЯ. Хто яшчэ не падпісаўся на «Наша слова», раім гэта зрабіць неадкладна — продаж газеты ў кіёсках будзе вельмі абмежаваным. Спяшайцеся!*

## У рэдакцыю газеты «Наша слова»

*Выказваю ўдзячнасць, што надрукавалі артыкул «Польскі граф хоча быць прэзідэнтам. Беларускім» («Наша слова», 1993, № 43). І хачу дапоўніць яго.*

*Сёння я размаўляю на беларускай мове дрэнна, але ў Менску не навучышся размаўляць па-беларуску, бо ўсе размаўляюць на рускай мове. Для мяне не існуе праблемы, рабіць ці не рабіць беларускую мову галоўнай у рэспубліцы. Ёсць пытанне, як гэта зрабіць, каб не атрымаўся канфлікт паміж жыхарамі Беларусі. Лепш за ўсё, каб зрабіць моду на беларускую мову і беларускую культуру. Я два гады таму назад прапанаваў Міністэрству культуры план выдання дэтэктыўных твораў на беларускай мове.*

*Хачу звярнуць увагу актывістаў беларускай мовы, што больш за сто гадоў таму назад у Чэхіі ўсе размаўлялі і пісалі на нямецкай мове, але актывісты чэшскай мовы зрабілі праграму і прывілі густ да чэшскай мовы. Прапаную паслаць актывістаў у Прагу, каб яны ўзялі тую праграму, і, калі ёсць магчымасць, мы таксама зробім гэта на Беларусі.*

АЛЯКСАНДР
граф ПРУШЫНСКІ.

*Меркаванні*

# Якім быць нашаму пашпарту

*Некалькі месяцаў таму Міжнародная асацыяцыя беларусістаў накіравала ў адпаведныя ўстановы ліст, у якім звярталася ўвага на праблемы напісання прозвішчаў, імёнаў у беларускіх пашпартах. Невядома, ці будуць улічаны тыя прапановы, ці будзем мы ў новых пашпартах беларусамі. Мяркуем, што чытачам трэба ведаць, як трэба пісаць нашыя прозвішчы ды імёны.*

*Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

*Міністэрству ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь*

*Міністэрству замежных спраў Рэспублікі Беларусь*

■■■

У сувязі з падрыхтоўкай да друкавання беларускіх пашпартоў і наступнай пашпартызацыяй насельніцтва ўзнікае шэраг праблем, якія маюць агульнакультурнае значэнне і не могуць вырашацца ў чыста адміністрацыйным парадку. Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны і Міжнародная асацыяцыя беларусістаў не могуць застацца ў баку ад вырашэння гэтых праблем. У асноўным яны зводзяцца да наступнага:

1. Мовамі, на якіх падаюцца тлумачальныя надпісы ў пашпартах (рэквізіты), павінны быць толькі беларуская і ангельская. Ужыванне расійскай мовы немэтазгодна, бо, па-першае, беларускі тэкст зразумелы для славянскага свету, як паказвае практыка, нават больш за расійскі, а ў далейшым у сувязі са звужэннем сферы вывучэння расійскай мовы за мяжой колькасць валодаючых расійскай мовай рэзка зменшыцца. Па-другое, ангельская мова як міжнародная дастатковая для разумення надпісаў на беларускіх пашпартах у астатнім свеце. Акрамя таго, увядзенне расійскай мовы ў рэквізіты ставіць цяжкія праблемы пры ўжыванні ўласцівых беларусам і іншым народам, што жывуць у Беларусі, імёнаў і прозвішчаў. Такія надпісы будуць правакаваць на замену беларускіх формаў імені расійскімі (фактычна — царкоўна-славянскімі) кананічнымі імёнамі. Гэта значыць, у чыноўнікаў, асабліва на месцах, будзе падстава запісаць імя беларуса як Васілій, а не Васіль ці Базыль; Фёкла, а не Тэкля і г. д. А прозвішча адпаведна — як Васільеў, а не Васілеў, Філіповіч, а не Піліповіч і г. д.

2. Сярод рэквізітаў уводзяцца толькі графы «Імя» і «Прозвішча» ў адпаведнасці з прынятай міжнароднай практыкай. Графы «Імя па бацьку» не павінна быць, бо ў беларускай гістарычнай і народнай традыцыі называнне чалавека па імені і па бацьку не было характэрна. Гэта форма «велічання» ўкаранілася ў пераважна больш позні час пад уплывам маскоўскіх традыцый.

Акрамя таго, увядзенне імя па бацьку на -іч (-овіч, -евіч) стварае цяжкасці для запісу ў пашпартах народных формаў імені тыпу Вінцук, Юрка і г. д., бо выкліча адмоўную рэакцыю на іх — як назваць сына чалавека з такім імем: Базылевіч, Вінцукавіч, Юркавіч? Калі ўсё ж ёсць неабходнасць такой графы, то можна ўвесці дадатковую — «Імя бацькі» (як гэта робіцца ў польскіх пашпартах і некаторых іншых). Дарэчы, а чаму толькі бацькі?

3. Пры запаўненні пашпартоў гарантаваць права запісваць імёны ў форме, якую прапануюць іх уладальнікі, з улікам выпрацаваных стагоддзямі формаў імені на Беларусі. Такая практыка прынята ў шмат якіх славянскіх краінах. (Параўнайце, напрыклад, балгарскае Димо, Димчо і Димитър як паўнапраўныя афіцыйныя імёны). Ні ў якім выпадку нельга зводзіць імёны тыпу Алесь, Апанас, Язэп, Восіп да кананізаваных царквой формаў Аляксандр, Афанасій, Іосіф. Калі чалавек пажадае, ён мае права запісаць імя ў кананізаванай форме.

4. Для некірылічных запісаў імені, прозвішча, месца нараджэння ўжываць беларускую лацінку, якая дае дакладнае гучанне гэтых уласных імён. Наяўнасць беларускай лацінкі, добра дапасаванай для перадачы асаблівасцей нашай фанетыкі— наша вялікая перавага перад народамі, якія такога «двайнога» пісьма не маюць і вымушаны транскрыбіраваць ці транслітарыраваць свае ўласныя назвы сродкамі чужой графікі. Спробы транскрыпцыі нашых імён і прозвішчаў па-ангельску, па-французску і г. д. вядуць да амаль невырашальных праблем і непажаданай варыянтнасці запісаў у сувязі з немагчымасцю адэкватнай перадачы гучання ці напісання беларускіх назваў. Беларуская лацінка — элемент нашай культуры. Дарэчы, такая перадача ўжо прынята на паштовых марках Беларусі (Беларусь — Belarus). Гэта, зразумела, не значыць, што мы вяртаемся да пытання аб неабходнасці ўвядзення для беларускай мовы двух раўнапраўных алфавітаў, якое было вырашана на карысць існуючай графікі яшчэ ў нашаніўскі перыяд культурнай гісторыі беларусаў. Гутарка ідзе аб выкарыстанні ў якасці дапаможнага сродка беларускай лацінкі для таго, каб аблегчыць адэкватнае ўспрыняцце нашых імёнаў і прозвішчаў у краінах, дзе карыстаюцца графікай на лацінскай аснове, паколькі пашпарты будуць выконваць адначасова і функцыю замежных.

Ведаючы, што ўжо робяцца спробы замацаваць у асноўным дакуменце кожнага грамадзяніна Беларусі каланіяльную русіфікатарскую тэндэнцыю, якую ў далейшым будзе вельмі цяжка адмяніць, звяртаемся да Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, а таксама міністэрстваў, якія адказваюць за ўвядзенне новага беларускага пашпарта, прыняць пад увагу выказаныя меркаванні і не дапусціць ігнаравання культурнай спадчыны народа Беларусі і сцірання яго адметнасці на фоне іншых народаў.

**Адам МАЛЬДЗІС,**
доктар філалагічных навук, прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францішка Скарыны.

**Генадзь ЦЫХУН,**
доктар філалагічных навук, вучоны сакратар Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, загадчык аддзела славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі.

**Вячаслаў РАГОЙША,**
кандыдат філалагічных навук, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, намеснік дырэктара Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францішка Скарыны.

*Чыталі?*

# «Новая зямля». І, здаецца, беларуская

Пабачыў свет першы (пробны) нумар газеты для вяскоўцаў «Новая зямля». Заснавальнік — Беларускі саюз фермераў. Галоўны рэдактар — Анатоль Казловіч.

Грамадска-палітычны накірунак газеты выклікае прыязнасць. Аўтары газеты кароткім, сціплым і трапным радком эмацыянальна падаюць спектр аграрных клопатаў у самых розных сферах беларускага грамадства. Часам інфармацыя па-майстэрску пераплятаецца з лірычнымі, па-мастацку выпісанымі занатоўкамі.

Цэнтральным матэрыялам нумара можна па праву лічыць зробленае на высокамастацкім узроўні эсэ пісьменніка і журналіста Анатоля Казловіча «Трохгаловы беларус» скаціўся з горкі» — штрыхі своеасаблівага групавога партрэта палітычных лідэраў Беларусі: С. Шушкевіча, В. Кебіча, З. Пазьняка, за якімі яскрава бачыцца наш сённяшні нацыянальны характар.

У артыкуле «Галодны з палаткі — незнаёмы чалавек» Сяргей Шаўцоў расказвае пра «простага беларуса» — фермера Алеся Косача. На прыкладзе аднаго руплівага нашага суродзіча журналіст сцвярджае простую ісціну: розум, здольнасць прыняць правільнае рашэнне, улюбёнасць у працу — вось галоўныя рухавікі фермерства. І такія людзі, дзякаваць Богу, яшчэ на Беларусі ёсць.

На пятай старонцы пад рубрыкай «Дзелавы чалавек» чытача чакае сустрэча з колішнім старшынёй колішняга калгаса «Рассвет» імя К. Арлоўскага Васілём Старавойтавым. Яго (цяпер ужо кіраўніка аграфірмы) выказванні ўражаюць грунтоўным бачаннем жыцця, глыбокай сялянскай мудрасцю. Як, дарэчы, і некаторай нечаканасцю. Калгасы трымаліся тады на дзяржымордзе, ды пладзілі прыстасаванцаў, — сцвярджае знакаміты аграрый.

Газета ўжо з першага нумара рашуча заяўляе, што кожнай сваёй публікацыяй будзе працаваць на ўмацаванне суверэнітэту і незалежнасці Беларусі. У гэтым сэнсе характэрны матэрыял доктара эканамічных навук Васіля Яфрэменкі (ён памёр напярэдадні выхаду «Новай зямлі»): «Я ведаю, эканамічная незалежнасць Рэспублікі Беларусь рэальная ў бліжэйшыя гады. Пры дзеяздольным і адказным урадзе». Падрабязна аналізуючы магчымыя шляхі вырашэння эканамічных праблем у нашай дзяржаве, аўтар падказвае ўмову, пры якой цяперашнюю сітуацыю можна кардынальна змяніць: «Я прапаноўваю: на бліжэйшай сесіі Вярхоўнага Савета... сфарміраваць урад народнага даверу і даручыць яму тэрмінова распрацаваць план структурнай перабудовы прамысловага і сельскагаспадарчага комплексу рэспублікі».

Не засталося па-за ўвагай новай газеты і духоўнае жыццё. «Да Храма ўсім ісці нялёгка»,— адзначае пісьменнік Георгій Марчук у артыкуле «На паўдарозе».

Ёсць спадзяванне, што ў адрозненне ад «Белорусской нивы» яна будзе сапраўды беларускім выданнем.

Але! Будзем спадзявацца, што тыя асобныя матэрыялы на расійскай мове, якія бы асот вытыркаюцца на добрых газетных дзялянках, проста трапілі сюды на пачатковым, не да канца ўладкаваным перыядзе. Вясковыя людзі з радасцю прымуць газету на сваёй беларускай мове. А на расійскай... Вось жудаснае распараджэнне Ульянава-Леніна бальшавіцкім дзяржаўным рэкецірам трэба сапраўды публікаваць, даваць без змен. Даваць стотысячныя прэміі за кожнага павешанага «кулака», пана, памешчыка, а потым яшчэ і звальваць віну на нейкіх «зялёных» — гэта нельга перакладаць на беларускую мову, няхай так і будзе на мове арыгінала.

Ганна ЦІТАЎКА.

# Родная мова ў аўдыторыях БДУ

У пачатку новага навучальнага года Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь прыняло пастанову, якая прадугледжвае паглыбленне беларусізацыі ВНУ. Як вядома, Белдзяржуніверсітэт па заслугах лічыцца адной з нашых лепшых вышэйшых навучальных устаноў. Таму натуральна, што на факультэце журналістыкі БДУ, дзе рыхтуюць спецыялістаў, большасць якіх заўтра будзе карыстацца нашай дзяржаўнай мовай у якасці рабочай, беларускамоўнаму выкладанню надаецца асаблівая ўвага. І кіраўніцтва журфака робіць усё, каб роднае слова заняло ў студэнцкіх аўдыторыях «свой пачэсны пасад».

Выкладанне беларускай мовы ў будучых творчых супрацоўнікаў газет і часопісаў, радыё і тэлебачання зараз вядзецца тры разы на тыдзень. Частка гэтых навучальных гадзін адводзіцца практычным заняткам, на якіх студэнты чытаюць вершы нашых вядомых паэтаў, урыўкі з беларускай мастацкай прозы, дзе яны абменьваюцца думкамі аб новых кнігах. На факультэце працуе таксама спецыяльны факультатыў, тут студэнты шліфуюць сваё валоданне родным словам і сістэматычна праводзяць аналіз разнастайных беларускіх слоўнікаў. Адзначым, што ўжо сёння планавы навучальны працэс амаль цалкам ажыццяўляецца па-беларуску. Праўда, часам яшчэ ўзнікаюць і цяжкасці. Напрыклад, з выкладаннем на роднай мове эканамічнай тэорыі, машынапісу, камп'ютэрнай тэхнікі. Гэта, у першую чаргу, звязана з недахопам беларускамоўных падручнікаў па згаданых дысцыплінах. Але галоўнае тое, што працэс беларусізацыі на журфаку, як і цалкам у БДУ, паспяхова набірае абароты.

Сяргей ПАТАРАНСКІ,
студэнт-першакурснік журфака БДУ.

## *Весткі з Віленшчыны*

З 1.10.93 г. рашэннем урада Летувіскай Рэспублікі ўводзіцца візавы рэжым для краін СНД. У час знаходжання міністра замежных спраў Беларусі сп. П. Краўчанкі ў Вільні на пачатку верасня і сустрэчы з прэзідэнтам А. Бразаўскасам гэтае пытанне абмяркоўвалася, але засталося не вырашаным. Патрэбна дадаць, што Першы з'езд беларусаў свету выказаўся супраць увядзення візавага рэжыму на Беларусі для беларусаў блізкага замежжа.

ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага краю, выказваючы інтарэсы тутэйшага насельніцтва, заўсёды выступала і выступае за бязвізавы рэжым, гэта зафіксавана ў перадвыбарчай праграме кандыдата ў дэпутаты Сейма Летувіскай Рэспублікі старшыні рады ТБМ сп. Марыі Матусевіч.

*Ю. ГІЛЬ.*

# ГОЛАС ПОЛЬШЧЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

***— Вас вітае беларуская рэдакцыя польскага радыё! — штодзённа гэтыя словы чуюць тысячы людзей па ўсёй краіне, калі ўключаюць свае прыёмнікі. Тры разы на дзень у эфіры па-беларуску гучаць навіны Польшчы і свету, агляды штодзённай прэсы суседняй краіны, палітычныя каментарыі, весткі пра жыццё беларусаў у Польшчы, інфармацыя аб супрацоўніцтве паміж нашымі краінамі ды інтэрв'ю з дзеячамі палітыкі і культуры.***

***Не так шмат замежных радыёстанцый вядзе свае перадачы на беларускай мове. Таму, прыехаўшы ў Варшаву, я адразу ж наведаў вялікі будынак Польскага радыё, што месціцца на алеях Неподлеглосці. Там, у невялікім пакойчыку беларускай рэдакцыі і адбылася мая гутарка з Эльжбетай Бэзюк і Алесем Навіцкім — радыёжурналістамі, галасы якіх стала гучаць у эфіры.***



НА ЗДЫМКУ: пасля канцэрта сфатаграфаваліся журналісты фальклорнага гурта «Ліцьвіradыё Эльжбета Бэзюк, Яраслаў ны» з яго Ўдзельнікамі Іванюк і Уладзімір Пац.

На пытанне, як была створаная служба, прагучаў наступны адказ:

*Э. Б.:* Пэўна, пачаць трэба з гісторыі самога будынка. Ён быў узведзены спецыяльна для службы дзяржаўнай бяспекі і калісьці выкарыстоўваўся ў адпаведнасці з прызначэннем. Але прайшоў час, змянілася ўлада, і гмах быў перададзены ў карыстанне Польскаму радыё. Аб мінулым нагадвае хіба што сталёвая сетка, нацягнутая ў пралётах лесвіц. Як я ўжо казала, час мінаў і змены адбываліся не толькі ў Польшчы, але і ў Беларусі. Пасля распаду СССР і атрымання вашай краінай незалежнасці тут было прынята рашэнне аб стварэнні службы вяшчання і на беларускай мове. Гэта было ў канцы восені 1991 года. Менавіта тады я, студэнтка беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, і прыйшла на работу ў рэдакцыю. Напачатку яна налічвала трохі больш за дзесятак супрацоўнікаў, пераважна студэнтаў ці выпускнікоў той жа беларускай філалогіі. Першыя месяцы сталі для нас часам выпрабаванняў — хто падыходзіць, а хто не для работы радыёжурналіста. Мы пачыналі з кароткіх 15-хвілінных перадач — рабілі агляды друку, зборкі навінаў... Гэта быў час навучання, бо мы не былі прафесійнымі журналістамі, а лічыліся дыктарамі трэцяй катэгорыі. Мы вучыліся рабіць усё.

У студзені 1992 года пачалі працаваць сур'ёзна, хаця акрэсленне «сур'ёзна» не зусім дакладнае: здараліся хібы і ў стылі, часам у эфір ішлі тэксты, што пачыналіся і канчаліся абрыўкамі слоў. Старэйшыя калегі супакойвалі нас тым, што напачатку нашы перадачы чутны ў Беларусі не надта добра, і таму дробныя недахопы будуць незаўважанымі. Але кожны з нас чакаў дасланых абуранымі слухачамі лістоў з папрокамі за недасканаласць мовы, стылю, слабы тэхнічны ўзровень... І лісты сапраўды пайшлі, але ў іх нашы слухачы выказвалі шчырую падзяку рэдакцыі за яе дзейнасць, за тое, што мы папросту існуём.

*А. Н.:* Я думаю, вельмі важным быў ужо сам факт стварэння нашай рэдакцыі. Па-за межамі Беларусі мы былі адзінай беларускамоўнай праграмай, калектыў якой складаўся выключна з моладзі, з людзей, пазбаўленых комплексу самацэнзуры ці ідэалагічнай абмежаванасці. Пачатак дзейнасці рэдакцыі быў чыстай імправізацыяй і, на мой погляд, удалай. У той час новы, дэмакратычны ўрад Польшчы наладжваў адносіны з новай, суверэннай Беларуссю, і менавіта гэта стала галоўнай прычынай стварэння рэдакцыі.

*У. П.:* І што ж адбывалася з вамі далей?

*Э. Б.:* Змены працягваліся. Да нас прыходзілі новыя людзі, як, напрыклад, адзін з вядучых цяпер журналістаў Уладзімір Пац. Рэдакцыя пачала выходзіць у эфір ужо з дзвюма паўгадзіннымі перадачамі. Змянілася і наша назва — з «Радыё Палонія» мыператварыліся ў пятую праграму Польскага радыё для замежжа, бо старая назва тут, у Польшчы, асацыіравалася з непапулярнымі традыцыямі камуністычнай прапаганды. Тады ж, у 1992 годзе, правялі перамовы і падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве дырэктар пятай праграмы Польскага радыё Ежы Ягадзінскі, кіраўніца нашай рэдакцыі Ніна Баршчэўская і рэдактар студыі Беларускага радыё «Беларуская маладзёжная» Жанна Літвіна. З таго часу мы рэгулярна, тры разы на тыдзень, абменьваемся блокамі карэспандэнцыі, выкарыстоўваючы ў сваіх перадачах атрыманую з Беларусі інфармацыю.

*А. Н.:* Змены адбываліся ва ўсім. Змянілася і моўная канцэпцыя нашых перадач. Ужо некалькі месяцаў, як у сваіх перадачах мы перайшлі да маўлення, уласцівага нерэфармаванай беларускай мове і зафіксаванага граматыкай Тарашкевіча.

*У. П.:* У Беларусі дагэтуль вядуцца спрэчкі вакол праблемы вяртання да ранейшых моўных нормаў. Як паставілася да гэтага вашае кіраўніцтва?

*А. Н.:* Наша начальства мала цікавяць гэтыя нюансы — «тарашкевіца» ці «наркамаўка». Калі ўжо гаварыць аб праблемах мовы, дык яе традыцыі зафіксаваныя рознымі граматыкамі: Тарашкевіча, Станкевіча, Пашкевіча... Справа не ў тым. На радыё мы выкарыстоўваем не правапіс, а спосаб вымаўлення. Наша мова гучыць з уласцівай ёй мелодыкай, і тут гэта нікога не здзіўляе — прынцып мяккага вымаўлення і адпаведнасці яму правапісу ўжываецца і ў польскай мове.

*Э. Б.:* Размова нават не аб тым, як тое ці іншае слова вымаўляецца па-польску і ці ёсць у гэтым падабенства беларускай норме. «Плянэта», «Эўропа» ці «філялёгія» — вымаўленне гэтых ды вялікай колькасці іншых слоў папросту адпавядае еўрапейскай моўнай традыцыі, адпавядае вымаўленню гэтых слоў у мовах, з якіх мы іх запазычылі.

***У. П.: Калі размова пайшла аб іншых радыёстанцыях, дык ці можна правесці нейкія паралелі паміж іх і вашай дзейнасцю?***

*А. Н.:* Калі параўноўваць нашую рэдакцыю з той жа «Свабодай», дык трэба адзначыць: паміж намі ёсць прынцыповая розніца. Радыёстанцыя ў Мюнхене паўстала шмат гадоў таму, у час панавання ў СССР ды краінах Усходняй Еўропы таталітарных рэжымаў. Мэтай стварэння «Свабоды» было распаўсюджванне за «жалезнай заслонай» інфармацыі, якой людзі былі пазбаўлены. Прынцып дзейнасці нашага радыё зусім іншы. Наша канкрэтная мэта — інфармаванне беларускіх слухачоў аб падзеях у прыязнай Польшчы. Нашыя краіны мяжуюць паміж сабой, але Беларусь мае добра наладжаны абмен інфармацыяй выключна з краінамі, якія раней уваходзілі ў склад СССР. Атрымліваецца, што аб падзеях у рэгіёнах, якія ў Менску называюць блізкім замежжам — Сібіры, Таджыкістане, Казахстане — беларусы ведаюць значна болей, чым аб сітуацыі ў суседняй Польшчы.

*Э. Б.:* Дзейнасць нашай праграмы можна параўнаць, хутчэй, з дзейнасцю тых станцый па ўсім свеце, што вядуць перадачы на замежныя краіны на іх мове — «Голас Амерыкі», «Нямецкая хваля» і г. д. Урад Польшчы зацікаўлены ў тым, каб інфармаваць Беларусь аб падзеях у сваёй краіне. І тут трэба ўзяць пад увагу тое, што мы — чыста інфармацыйная праграма, якая не імкнецца паўплываць на ход палітычных ці нейкіх іншых працэсаў у Беларусі.

*У. П.* На якую катэгорыю слухачоў арыентуецца ваша служба?

*А. Н.:* У першую чаргу — на слухачоў менавіта з Беларусі, якія ў той ці іншай ступені цікавяцца жыццём Польшчы. Нашыя перадачы можна прымаць і ў Берліне і ў Бялай Падлясцы, але лісты ад слухачоў мы атрымліваем амаль выключна з Беларусі.

*Э. Б.:* Так, праграмы рэдакцыі робяцца з разлікам менавіта на беларускіх слухачоў, бо сёння Польшча для Беларусі ёсць замежжа больш далёкае, чым Узбекістан. На Беласточчыне нас слухаюць мала, бо тую ж самую інфармацыю, значна больш пашыраную, можна атрымаць па іншых каналах радыё ці тэлебачання. Мы ж абмежаваныя часам.

Сёння наш ідэал — поўная прыстасаванасць рыхтаваных матэрыялаў да нашых слухачоў з Беларусі, бо часам у перадачах згадваюцца імёны ці падзеі, якія без адпаведных тлумачэнняў мала што гавораць чалавеку, які слаба арыентуецца ў жыцці Польшчы. Нам хацелася б наладзіць лепшую сувязь са сваімі слухачамі, і мы чакаем лістоў з водгукамі, ці ўсё ясна і зразумела ў нашых перадачах, ці дакладна ўспрымаюцца там, у Беларусі, нашыя звесткі.

*У. П.:* Наколькі значным падаецца вам існаванне беларускай рэдакцыі?

*А. Н.:* Я хачу звярнуць увагу на наступнае: кіраўніцтва Польшчы, прыняўшы рашэнне стварыць беларускую рэдакцыю, разумела: у Беларусі існуе рэальная перавага расійскай мовы, а ўжыванне беларускай — справа не штодзённага жыцця. Тым не менш, была створана менавіта беларускамоўная праграма. І канешне ж, нашыя праграмы адразу сталі крыніцай аб'ектыўнай інфармацыі аб жыцці суседняй краіны.

*Э. Б.:* Трэба адзначыць, што існаванне падобных праграм на мовах суседніх краін мае вялікае значэнне. І я, жывучы ў Польшчы, вельмі хацела б чуць пабудаваныя паводле падобнага прынцыпу перадачы беларускага радыё для Польшчы. Я спадзяюся, што калі-небудзь гэта здзейсніцца. А пакуль мы сваёй працай робім усё для таго, каб нашыя краіны перасталі быць адна для адной далёкімі.

Праз два дні, прыехаўшы з Варшавы, я ўвайшоў у сваю кватэру і ўключыў тэлевізар. Перадавалі навіны бліжняга замежжа: баі ў Грузіі, баі ў Таджыкістане, курс долара ў Маскве... Я пагасіў экран і пстрыкнуў пераключальнікам прыёмніка. «Вас вітае беларуская рэдакцыя Польскага радыё»,— сказаў мне знаёмы голас...

Уладзімір ПАНАДА.

## Чый герб?

Я збіраю выявы гарадскіх гербаў. Таму нядаўна ў адным з гомельскіх кіёскаў «Саюздруку» набыў значок з гербам Магілёва. І адразу са здзіўленнем адзначыў, што надпіс «Могилев основан в 1267 г.» зроблены па-расійску. Але для калекцыянера рарытэты і кур'ёзы маюць вялікую каштоўнасць. А згаданы значок «цягнуў» на сапраўдны рарытэт, бо ў маёй, напрыклад, калекцыі нічога падобнага няма. Няма, у прыватнасці, аніводнага значка з гербам якога-небудзь расійскага горада і адпаведным надпісам па-беларуску.

Але ж не першы год жывём, ведаем, што руская мова зараз шмат каму здаецца адзінай зразумелай паўсюдна.

Магілёўскі герб на значку, мякка кажучы, азадачыць больш-менш дасведчаных калекцыянераў. Мяркуйце самі: традыцыйны беларускі шчыт (тарча) адвольна заменены на расійскі, рыцар, які стаіць на варце гарадской брамы, чамусьці замест еўрапейскіх латаў апрануты ва ўсходні (маскоўскі) баявы строй, а з замкавай вежы невядома чаму знікла выява нашай «Пагоні».

Колькі тут парушэнняў агульнапрынятых правілаў геральдыкі! Вядома, гэтую антыгістарычную «неахайнасць» можна было б спісаць, спасылаючыся на featурознае. Але ў згаданым значку выразна праглядаецца наступнае: усе парушэнні геральдыкі ў дадзеным выпадку маюць мэтанакіраваны антыбеларускі і, значыць, правакацыйны характар.

Лічу, што аўтар гэтага, з дазволу сказаць, твора, хутчэй за ўсё, свядома збэсціў і абылгаў старадаўні гарадскі герб Магілёва, наўмысна пазбавіў яго беларускай гістарычнай адметнасці. А чый герб на згаданым значку — невядома.

Віталь КОШАЛЕЎ,
дацэнт, старшыня суполкі ТБМ
Менскага медыцынскага інстытута.

## ПРАГРАМА ПЕРАДАЧ БЕЛАРУСКАЙ РЭДАКЦЫІ ПОЛЬСКАГА РАДЫЁ

| | | |
|---|---|---|
| 8.00—8.30 | 41,49,200 метраў | 7285, 6035, 1503 кГц |
| 18.00—18.30 | 41,49 метраў | 7145, 6035 кГц |
| 21.00—21.30 | 41, 49, 200 метраў | 7285, 6035, 1503 кГц |

*Старыя беларускія гімназіі*

*Рубрыку вядзе народны пісьменнік Беларусі Янка БРЫЛЬ*

# НАВАГРАДСКАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ

***Працягваючы рубрыку «Старыя беларускія гімназіі», прапануем на гэты раз допіс невядомага аўтара, што схаваўся за псеўданім С-скі. Упершыню надрукаваны ў часопісе «Моладзь» (1953, № 31, Парыж). Перадрук захоўвае асаблівасці аўтарскай мовы, у яго падрыхтоўцы прыняў удзел Юрка Васілеўскі.***

МІЖ беларускіх навуковых устаноў, дзе калісь узгадоўвалася беларуская моладзь, дзе раслі кадры беларускай інтэлігенцыі, чамусьці да гэтага часу рэдка калі ўспаміналася Наваградская беларуская гімназія. Тым часам яна займала далёка не апошняе месца ў ліку беларускіх узгадаваўчых устаноў, дык варта прысвяціць ёй крыху месца і часу, каб падзяліцца з чытачамі малавядомымі фактамі. На жаль, не маючы пад рукой дакументальнага матэрыялу, давядзецца ў гэтым артыкуле апірацца выключна на ўспаміны, таму аўтар гэтых радкоў наперад засцерагае, што гэты кароткі нарыс будзе вельмі няпоўны, і спадзяецца, што былыя вучні і настаўнікі Наваградскай гімназіі, якія знайшліся на эміграцыі, дапоўняць нястачы гэтага нарысу.

Заснавалася Наваградская гімназія хутка пасля сканчэння бальшавіцка-польскае вайны, але спачатку была беларуска-расейскай і афіцыйна называлася так: «Змешаная расейска-беларуская гімназія бацькоўскага камітэта ў Навагрудку». Гэта была прыватная ўстанова і не мела дзяржаўных правоў. У старэйшых класах навука адбывалася па-расейску, а ў малодшых па-беларуску з тым, што расейскія класы ступнёва ліквідоўваліся і апошні расейскі выпуск матурыстаў адбыўся ў 1926 г. Вучнямі расейскіх класаў былі пераважна мяшчане, дзеці праваслаўнага духавенства і нават часткова жыды — рэдка хто з іх па атрыманні прыватнай матуры мог вырвацца за граніцу на вышэйшыя студыі, бо ў Польшчы гэтая матура была бясправнаю. Гэтым тлумачыцца факт, што некаторая частка матурыстаў старалася вырвацца ў Савецкую Беларусь і там прадаўжаць сваю навуку. Вучнямі беларускіх класаў былі ў большасці сялянскія дзеці. Бясправнасць і змешанасць былі ненармальным з'явішчам, з якім ніяк не мог пагадзіцца дырэктар Янка Цеханоўскі. Ён рабіў старанні, каб гімназія адразу стала чыста беларускай і каб атрымала дзяржаўныя правы, але за актыўную дзейнасць яго агулам выкінулі з Польшчы. І дырэктар гімназіі апынуўся ў Францыі і там працаваў як звычайны шахцёр, каб зарабіць сабе на пражыццё. Толькі ў 1926 г. новы наваградскі ваявода Бэчковіч дазволіў Цеханоўскаму вярнуцца ў Наваградак. Трэба з усёю аб'ектыўнасцю сцвердзіць, што з усіх ваяводаў, якія былі ў Навагрудку, толькі адзін Бэчковіч быў тым чалавекам, з якім беларусы маглі прынамсі гутарыць аб сваіх патрэбах. Здаецца, што гэта дзякуючы ягонай дапамозе ў 1926 г. адчынена пры гімназіі дзве бурсы: адна для хлопцаў, а другая для дзяўчат.

Што да складу настаўнікаў, дык мне невядомы настаўнікі з першых гадоў існавання гімназіі, але некаторыя з іх былі ў гімназіі праз увесь час яе існавання. Побач успомненага вышэй Янкі Цеханоўскага, найбольш цесна звязаны быў з гімназіяй Пятро Скрабец. Падчас адсутнасці Цеханоўскага і аж да 1929 г. ён быў дырэктарам, і хіба не памылюся, калі скажу, — душою ўсяе ўстановы. Часта можна было бачыць, як Пятро Ануфравіч адразу з заняткаў амаль падбегам некуды спяшаўся, кашляў на рагу вуліцы, выціраў свае вусы і прыспяшаў хаду, каб усюды ўспець на час. Маючы скончаны толькі настаўніцкі інстытут, яму прыходзілася выкладаць розныя прадметы, да якіх мусіў рыхтавацца шмат больш, як гэта вучням магло здавацца. Выкладаў ён псіхалогію, геалогію і беларускую мову. Ягоныя выклады нічым асаблівым не вызначаліся, яны мелі сухі характар, толькі часам самі вучні дадавалі да іх сосу розных жартаў і анекдотаў і тым самым моцна зафіксоўвалі выклады ў памяці. Затое адносіны Скрабца да вучняў мелі дбайлівы, бацькоўскі характар. Калі перад Калядамі ў 1926 г. у хлапцоўскай бурсе не стала харчоў і вучням прыйшлося амаль цэлы тыдзень жыць на хлебе і вадзе, дык Скрабец прыбег стурбаваны ў бурсу і за свае апошнія грошы зафундаваў абед. З яго вучні часам любілі пажартаваць, але агулам любілі.

Вялікай пашанай між вучняў карыстаўся Аляксандр Данілевіч, ён, як і Скрабец, настаўнічаў у гімназіі ад першых дзён яе заснавання і аж да закрыцця. Выкладаў ён фізіку і алгебру ў вышэйшых класах. Гэта быў наймацнейшы настаўнік у гімназіі і вельмі шчыры патрыёт.

Так жа «старым» настаўнікам быў Аўген Мілоў, але гэта быў вялікі вораг усяго беларускага, па прафесіі — афіцэр царскай арміі. Выкладаў ён хімію і часткова матэматыку. Па-беларуску пачаў гаварыць толькі ад 1927 г., а перш цвярдзіў усюды, што «Белорусь никогда не существовала и не будет существовать, а белорусский язык — это наречие русского языка». Паглядаў сваіх ён не змяніў да самае смерці, але калі яму прыйшлося вывучаць «наречие», дык не важыўся больш паўтараць свайго ранейшага сцвярджэння.

Такія ж адносіны меў да беларускасці доўгагадовы выкладчык праваслаўнай рэлігіі а. Васіль Бабкоўскі, пазнейшы архіепіскап Бенедыкт. Ён увесь час выкладаў выключна па-расейску, а калі ад 1929 г. трэба было здаваць матуральныя экзамены перад дзяржаўнаю камісіяй — па-беларуску, дык вучні часта пратэставалі супраць выкладаў рэлігіі па-расейску, але а. Васіль катэгарычна адмаўляўся карыстацца беларускай мовай, матывуючы свой адказ тым, што няма адпаведных беларускіх падручнікаў і няма каму іх напісаць. Не дзіва, што і ўплыў ягоных выкладаў на вучняў быў амаль ніякі, калі не адмоўны. Дзеля гэтага ад 1931 г. выклады рэлігіі даручаны а. Кляеўскаму, які добра ведаў беларускую мову і нават гаварыў казанні па-беларуску.

Між старшых настаўнікаў, якія мелі ўплыў на вучняў, вырозніваўся Міхась Чатырка. Выкладаў ён гісторыю і ўмеў зацікавіць вучняў сваім прадметам і ўмеў павязаць падзеі ў лагічную суцэльнасць.

У першых класах найбліжэй стаяў да вучняў стары настаўнік Аляксандр Шумскі,— выкладаў ён геаграфію і спевы да 1926 г. Потым спевы выкладаў кампазітар Валынчык.

Сведама стараўся ўплываць на вучняў настаўнік нямецкай мовы В. Зінкевіч, але ён ніколі не ўмеў знайсці сапраўднага кантакту з вучнямі, ды ягоныя пагляды былі вельмі далёкія ад тых, якія маглі ўспрыняць вучні.

Затое вельмі хутка знайшоў супольную мову з вучнямі д-р Аляксандр Орса, які пасля вяртання з Прагі быў назначаны настаўнікам прыродазнаўства і біялогіі ад 1930 г. Варта яшчэ ўспомніць настаўніка рысунка мастака Язэпа Драздовіча. Ён умеў не толькі вучыць рысаваць, але таксама прышчапляць вучням любоў да памяткаў беларускай старасвеччыны.

Настаўнікі польскай мовы і гісторыі Польшчы, якія, дарэчы кажучы, часта мяняліся, былі для вучняў людзьмі зусім чужымі. Адносіны з імі былі чыста афіцыяльныя.

Аж да 1931 г. мясцілася беларуская гімназія на рагу рынку ў тым самым доме, што і жыдоўская школа «Тарбут». Школьныя лаўкі ад часу яе заснавання не правіліся і не мяняліся, бо на гэта не было ніякіх сродкаў. Толькі дзесьці каля 1929 г., калі Польскай дзяржаўнай гімназіі ў Навагрудку было зроблена ўсё новае абсталяванне, дык частку збракаваных там школьных лавак магістрат горада перадаў беларускай гімназіі.

Гімназічная бібліятэка і фізічны кабінет былі вельмі бедныя, і гэтым, безумоўна, абцяжарвалася навука, але, не зважаючы на гэтыя цяжкасці, узровень навукі быў досыць добры, бо ўсе матэрыяльныя нястачы дарабляліся пільнасцю. Кніжкі найперш пазычаліся ў магістрацкай бібліятэцы, а потым ад 1930 г. афіцыяльна было дазволена карыстацца з бібліятэкі пры Польскай дзяржаўнай гімназіі. Часам у гэтай бібліятэцы былі здарэнні, якія аж самі напрошваюцца, каб іх увекавечыць дзеля ілюстрацыі польска-беларускіх адносін. Загадвала бібліятэкаю старэйшая векам польская настаўніца, а дапамагалі ёй тры гімназісткі — дочкі мясцовай шляхты. Глядзелі яны на беларускіх гімназістаў звысоку. Аднойчы ўваходзіць у бібліятэку беларускі гімназіст з сёмага класа. Памочніцы бібліятэкаркі глянулі на яго і адна другой буркнулі з абрыджаннем у паўголаса: «Юж Паўлюк пшышэдл» (так яны называлі ўсіх беларускіх гімназістаў). На гэта «Паўлюк», нічога не кажучы, злажыў спакойна рукі і пачаў так уважна і строга глядзець на іх, што настаўніца адразу падбегла да яго і спыталася, чаго ён патрабуе, але той далей глядзеў на шляхцянак. Тады настаўніца другі раз паўтарае пытанне і сама бягом бяжыць да шафы, дае вымаганую кнігу і, як толькі «Паўлюк» зачыніў за сабою дзверы, накінулася на сваіх памочніцаў з лаянкай, што тыя не ведалі дзе вочы падзець.

Акрамя навукі, у жыцці вучняў паважнае месца займала самадзейнасць. Часта ставіліся беларускія прадстаўленні і ладзіліся канцэрты. З гэтага гледзішча шмат прыслужыўся Валынчык. За яго часоў хор і аркестр гімназіі былі вядомы далёка па-за Наваградкам. Важную ролю для ўзгадавання вучняў мелі школьны кааператыў і вучнёўскі гурток, арганізаваны каля 1927 г. Стараннем гуртка выпісвалася перыядычная беларуская і часткова польская прэса і ладзіліся «суботнікі», на якіх чыталіся рэфераты, літаратурныя творы вучняў і адбываліся дыскусіі — гэта надзвычай пашырала светапогляд і ўзбагачала жыццёвым дасведчаннем. Але пасля некалькіх вучнёўскіх страйкаў гурток перастаў існаваць. А тады значна пагоршыліся адносіны між вучнямі і дырэктарам Цеханоўскім.

Паважным здарэннем у гісторыі гімназіі былі падзеі з 1929/30 г. Тады паўстала думка выбудаваць пад яе адпаведны будынак. Магістрат прызначыў для гэтага плошчу, а сойм ахвяраваў аж 200 000 злотых дапамогі для будавання. Настаўнікі і вучні з энтузіязмам узяліся за працу і сваімі сіламі падрыхтавалі пляц, збіралі адусюль ахвяры і заклікалі сялян звозіць каменне пад фундамент. Наваградскае староства таксама прызначыла невялікую запамогу. Заложаны ў 1930 г. фундамент урачыста пасвяціў епіскап Сава, і акт аб заснаванні будынка афіцыяльна для бурсы беларускай гімназіі падпісалі сам прэзідэнт Ігнацы Масціцкі, ваявода Бэчковіч, староста Грынкевіч і епіскап Сава. Але з грошай, прызначаных соймам, не было атрымана ні злота, і так будынак астаўся не закончаным аж да часу закрыцця гімназіі.

Пераломнай датай у жыцці Наваградскай гімназіі было яе «ўздзяржаўленне». Старанні аб прызнанні дзяржаўных правоў вяліся ад самога пачатку яе заснавання, але толькі ў 1927 г. першы раз дазволена было матурыстам здаваць экзамены перад дзяржаўнаю камісіяй у Вільні. У 1929 г. гэтым жа парадкам паклікалі матурыстаў з Клецкай беларускай гімназіі ў Вільню, але для іх экзамены скончыліся вельмі катастрафічна — за выняткам аднаго ўсе зрэзаліся. Гэта паслужыла зачэпкай для закрыцця гімназіі. Відавочна падобнай зачэпкі шукалі школьныя ўлады і адносна Наваградскай гімназіі, але, на шчасце, наваградскія матурысты трымаліся параўнаўча добра. У 1930 і 1931 гадах экзамены адбываліся ў самім Навагрудку. У 1932 г. адбылося «ўздзяржаўленне» гімназіі, але адразу было відаць, куды гэтае ўздзяржаўленне вядзе, бо беларуская гімназія стала філіяй Польскай гімназіі імя Адама Міцкевіча. Яе перанеслі ў будынак колішняга староства, але дні яе ўжо былі парахаваны. У 1934 г. з Віленскай школьнай кураторыі прыйшоў дэкрэт аб закрыцці філіі. Ад імя беларускага грамадства было зложана шмат пратэстаў супраць закрыцця, але на іх польскія ўлады не звярталі ніякай увагі.

Матурысты з Наваградскай гімназіі, у большасці сялянскія сыны, стараліся прадаўжаць сваю навуку — пераважна дзякуючы стыпендыям. Іх можна было стрэнуць ва універсітэтах у Вільні, Варшаве, Пазнані, Львове і нават у Інсбруку. Вялікая шкода, што Наваградская беларуская гімназія праіснавала так мала, дзеля гэтага рэдка калі аб ёй успаміналася на старонках прэсы.

# Вучымся!

*Удакладнім*

***Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА.***

## Шматкроп'е

1. Шматкроп'е ставіцца ў канцы апавядальнага сказа (простага і складанага), які не закончаны граматычна: *Калі дзявацца будзе некуды, тады...* (Якуб Колас). *Людзі ездзяць, а ты...* (Я. Брыль).

2. Шматкроп'е ставіцца ў канцы апавядальнага сказа, які закончаны граматычна, але не закончаны паводле сэнсу і інтанацыйнага афармлення: *Хто яе ведае, куды яна пайшла...* (Кузьма Чорны). *У вясёлы вечар мая салавей у гаі свістаў...* (Якуб Колас). *Сноп апошні залатога жыта застаецца ў памяці палос...* (А. Куляшоў).

**Заўвага.** Калі такія сказы маюць не апавядальную, а пытальную ці клічную інтанацыю, то ў канцы іх ставіцца пытальнік з шматкроп'ем або клічнік з шматкроп'ем .

3. Шматкроп'е ставіцца ў канцы намінатыўных сказаў і функцыянальных аналагаў сказа з «назоўным уяўлення», пасля якіх адчуваецца працяглая паўза (пры меншай паўзе ставіцца кропка): *Вечар... Туман павіс над зямлёй, нібы хто белую коўдру распрасцёр* (Міхась Чарот). *Хаты... Дзіўнымі здаюцца Андрэю хаты* (П. Пестрак). *Зіма... Усё пакрыта снегам* (М. Зарыцкі).

4. Шматкроп'ем аддзяляюцца сказы, паміж якімі існуе працяглая паўза, а змест аднаго сказа нечакана або раптоўна перарывае ці суправаджае змест другога сказа: *Лясныя птушкі стаіліся... У небе кружыў каршун* (Якуб Колас). *Палае змрок. Асенні свіст налёг на хілыя задворкі... Ідзе вясковы гарманіст, ідзе з сябрамі на вячоркі* (У. Хадыка).

5. Шматкроп'е ставіцца пасля сказа перад рознымі злучнікамі або злучальнымі словамі, што пачынаюць новы сказ, у якім раскрываецца і ўдакладняецца незакончаны змест папярэдняга сказа ў тэксце: *Плылі гады... А за гадамі скора маленства светлае праходзіла, як дзень* (П. Трус). *Ярка свеціць сонца... Але яно ўжо халоднае, зімняе...* (Змітрок Бядуля).

6. Шматкроп'е ставіцца ў канцы сказаў з аднароднымі кампанентамі, калі пералічэнне гэтых кампанентаў поўнасцю не закончана: *Чуецца гоман мне спелае нівы, ціхая жальба палёў, лесу высокага шум-гуд шчаслівы, песня магутных дубоў...* (Якуб Колас). *Ішоў дождж, шумелі дрэвы, гулі правады...* (М. Лынькоў).

Калі ж аднародныя кампаненты лагічна аддзелены і афармляюцца асобнай інтанацыяй, то яны становяцца самастойнымі сказамі (або функцыянальнымі аналагамі сказаў), якія могуць аддзяляцца адзін ад другога шматкроп'ем: *Там лясы... Сенажаці... Даліны... Цёмны гай... Адзінокі Карней...* (П. Трус).

7. Шматкроп'ем аддзяляюцца асобныя сказы і іх функцыянальныя аналагі ў тэксце, калі паміж імі існуюць працяглыя паўзы, выкліканыя пэўнымі перапынкамі і замінкамі ў паведамленні для больш выразнай перадачы яго сэнсу: *Раніца... Плылі туманы... Вілася дарога... Хацелася спаць...* (М. Лынькоў). *Будзеце гуляць сабе там... Паснедаўшы...* (Кузьма Чорны).

8. Шматкроп'е ставіцца паміж абзацамі пры нечаканым пераходзе ад аднаго плана апавядання да другога:

*Яна была яшчэ зусім маладая, але на твары яе ляжаў адбітак перажытага. Тоненькія маршчынкі сабраліся на ілбе і каля роту, сінія кругі былі пад вачыма, твар увесь быў запэцканы зямлёй. Кароценькі рваны кажушок на ёй быў таксама ў зямлі...*

*Часавы раздзеўся, набраў у кварту вады і стаў умывацца. За ім памыліся яшчэ два. Кабета падняла галаву і папрасіла дазвалення памыцца* (Кузьма Чорны).

Калі пераход ад аднаго плана апавядання да другога мае больш рэзкі характар, то шматкроп'е ставіцца ў канцы першага абзаца і ў пачатку другога:

*Ці помніць яна, што гаварыла вясною? Тады ў садзе цвілі яблыні... Цвілі, каб за ўсё лета антонаўкі выраслі, паспелі, сталі такімі, як некалі яна казала...*

*...Успомніла! Зірнула на Антона, усміхнулася, узяла самы большы яблык і паднесла да губ* (І. Грамовіч).

**Заўвага.** Пры асабліва працяглай паўзе і рэзкім сюжэтным павароце асобныя абзацы могуць аддзяляцца радковым шматкроп'ем.

9. Шматкроп'е ставіцца пасля ўступнага сказа, якім уводзіцца разгорнутае апісанне аб з'явах і падзеях, калі перад гэтым апісаннем існуе працяглая паўза, а ўступны сказ з'яўляецца незавершаным (граматычна ці па сэнсу): само апісанне пачынаецца з новага абзаца.

*Сніцца яму...*

*Вечар. На вокнах — маты, а за імі, за сцяною, на вуліцы і на падворку — снег, лютая сцюжа, дробная мяцеліца і цёмна, цёмна. Вось тая самая ваўчыная пара ў пахаваных снегавою дзяругаю, мутных і нямых, страшэнна пустых палях* (М. Гарэцкі).

Калі разгорнутае апісанне падаецца фрагментарна, тады шматкроп'е ставіцца не толькі пасля ўступнага сказа, але і ў пачатку гэтага апісання.

*Мне прыгадалася гарачая пара і рук напорнасць у бойцы ўраджайнай...*

*...Абапал вуліц ліхтары гараць, звон зор такі знаёмы і такі бяскрайні. Вядзе ў працяг упартай працы след, не слабне мужнасцю, дзе троп жарсцвяней...* (У. Хадыка).

10. Шматкроп'е ставіцца пасля разгорнутага апісання перад заключным сказам, які падагульняе змест папярэдніх сказаў або функцыянальных аналагаў сказаў у тэксце, калі гэты змест не поўнасцю закончаны; заключны сказ стаіць у адным абзацы з разгорнутым апісаннем або выдзяляецца ў асобны абзац.

*Гусяня пайшло! Праўда, галоўку трымала набок, пазірала адным вокам угару, прыпадала на нагу, але ўсё ж хадзіла. Гэта былі нязграбныя кругі... Ды я быў рады і таму* (І. Грамовіч).

**Хатняе заданне.** Пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку ва ўрыўку з паэмы А. Разанава «Паэма адпушчэння».

*Да гарызонта даляцела птушка*
*Сонца*
*хілілася на захад —*
*і цёмная вада, і дрэвы і трава,*
*праменне гіпнатычнае ўбіралі*
*і, бы ў прадвесці смерчу, не маглі паварушыцца*
*уздрыгнуць*
*засланіцца*
*Цяжарныя трывогай, у гурты*
*збіраліся аблокі*
*Чорны камень,*
*шпурнуты невядомаю рукой,—*
*ляцела птушка*
*няўхільна і знясілена,*
*і доўгі быў крык яе.*

# *Хачу ведаць*

ШАНОЎНАЯ РЭДАКЦЫЯ!

Вельмі добра, што на старонках «Нашага слова» існуе рубрыка «Вучымся». Яна дае шмат карысці тым, хто хоча паглыбіць свае веды па беларускай мове. Хацелася б, каб рэдакцыя ўвяла рубрыку накшталт «Хачу ведаць мову», дзе друкаваліся б адказы на пытанні чытачоў. Каб рубрыка зажыла, прапаную свае пытанні.

1. Як трэба пісаць слова *падчас?* Газеты ж пішуць, як каму ў галаву прыйдзе: і злітна і паасобку. Якое яго значэнне? Ці тое самае, што і *ў час?* Прывядзіце прыклады прымянення яго ў кантэксце...

2. Як перакласці на беларускую мову выраз *Пир во время чумы?*

3. Як правільна пісаць: *пацярпелыя ад стыхійнага бедства раёны* ці *пацярпеўшыя ад стыхійнага бедства?*

**А. РАМАНЮК,**
Камянецкі раён.

Вашу газету буду атрымліваць да канца гэтага года. Выпісаў яе і на I квартал 1994 года.

АДКАЗЫ.

1. Слова *падчас* шырока ўжываецца ў нашай літаратурнай мове. У картатэцы аддзела лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі захоўваюцца 42 карткі з прыкладамі — сказамі з гэтым словам.

Слова *падчас*, незалежна ад таго, з'яўляецца яно прыслоўем ці прыназоўнікам, пішацца злітна.

Прыслоўе *падчас* мае сэнс: часам, калі-нікалі, іншы раз. Вось прыклады з твораў класікаў нашай літаратуры: *У чым, напрыклад, сэнс падаткаў, падчас быць можа і пустых* (Якуб Колас); *Падчас вясной заблудзіць птушка, зазвоніць песенькай сваёй* (Янка Купала). І яшчэ яго ж: *Я не для вас, паны, о не, падчас збываюся спакою; Толькі звер падчас завые ашалелым смехам.* Падамо і сказ з Брылёвых «Нёманскіх казакоў»: *З пушчы за Нёман выязджалі разведчыкі, выходзілі ўзводы, падчас цэлы атрад ці брыгада.*

Прыназоўнік *падчас* з назоўнікам выражае часавыя адносіны: ужываецца, калі трэба спаслацца на тэрмін, з'яву, падзею, у час якіх адбываецца ці існуе што-небудзь. Прыкладам, у А. Марціновіча: *Толькі я паступіла ў медінстытут — няшчасце на нашу сям'ю звалілася: бацька загінуў падчас аўтамабільнай аварыі.* Згадаем і сказ з паданага вышэй твора Я. Брыля: *Ён сядзеў у балоце падчас апошняй блакады.*

2. Выслоўе *Пир во время чумы*, якое стала крылатым (відаць, ад аднайменнай драмы В. Шэкспіра), рызыкнём перакласці так: *Баль падчас чумы* .

3. Дзеепрыметнікі з суфіксамі *-еўш-*, *-яўш-* не ўласцівыя нашай мове. Вось толькі і само спалучэнне слоў *пацярпелыя ад стыхійнага бедства* — калька з расійскага выразу. Па-беларуску, відаць, трэба пісаць *ахвяра (ахвяры) паводкі, землятрусу, пажару.* Дарэчы, пра апошніх беларусы кажуць *пагарэльцы, пагарэлец.*

*Жывое слова*

# Коварат і калаўрот

**У пяцітомным Тлумачальным слоўніку беларускай мовы (ТСБМ) няма слова *коварат*. Паводле энцыклапедычнага даведніка «Этнаграфія Беларусі» (Мн., 1989. С. 233, 266), *коварат* — гэта «вароты, якімі перагароджваюць вуліцу на канцах вёскі», а *калаўрот* — гэта: 1) «самапрадка» і 2) «прыстасаванне для падымання цяжару (напр., вядра са студні): вал з ручкай, на які намотваецца канат, ланцуг». У «Дыялекталагічным атласе беларускай мовы» (Мн., 1963. Карта № 243) гэтыя словы разам з іх варыянтамі *ковадыр, каловер, ковараценъ* уваходзяць у сінанімічны рад (*вага, журавель, асвер, пругло, вочап, звод, смык, шчогла, сліга* і інш.) са значэннем 'назва вагі ў студні з жураўлём.' У мове мастацкай літаратуры *коварат* абазначае і прыстасаванне даставаць ваду з калодзежа і прыстасаванне зачыняць вароты (гл. мой слоўнік «Дыялектызмы ў творах...», Мн., 1979).**

**Напэўна, укладальнікі Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы «падштурхнулі» ўкладальнікаў «Этнаграфіі Беларусі» да ліквідацыі ў слове *коварат* значэння 'прыстасаванне падымаць што-небудзь', бо самі нават не ўключылі гэта слова ў ТСБМ. Вядома, нашым этнографам не было б сорамна перад беларускім народам, калі б яны хоць адным вокам зазірнулі ў «Слоўнік гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (т. 2, с. 493), дзе *коварат* і *коварацъ* падаюцца як назвы асвера і брамы ці варот у Гродзенскай, Брэсцкай і Віцебскай абласцях.**

**На тэрыторыі, дзе стыкаюцца Клецкі, Салігорскі і Ганцавіцкі раёны, жыве яшчэ пакуль што слова *конаварат* як назва вагі ў калодзежы з жураўлём. Гэта слова як нельга лепш праясняе этымалогію слова *коварат,* што зводзіцца не да *коло+воротити,* а да *коневъ* (параўн. сучасн. *конайка)+воротити* (да з'яўлення жалезных і алюмініевых вёдзер ваду даставалі і трымалі ў драўляных вёдрах не толькі на Беларусі).**

**Такім чынам, словы *коварат* і *калаўрот* хоць і роднасныя сваімі другімі часткамі, але ў той жа час і розныя сваімі першымі часткамі.**

**Мікола АБАБУРКА.**

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
## ў пытаннях і адказах

### Што такое вуніяцтва?

Вуніяцтва — гэта адзін з накірункаў хрысціянства, што паўстаў на Беларусі ў выніку Берасцейскае вуніі 1596 года.

Пераход праваслаўных беларусаў у вуніяцкую веру адбываўся паступова і расцягнуўся на шмат гадоў, што дазволіла (нягледзячы на даволі значнае на першым часе непрыняцце і нават супраціўленне) пазбегнуць крывавых рэлігійных войнаў, як гэта было ў шэрагу краін Заходняй Еўропы. Пры канцы XVIII стагоддзя, напярэдадні анексіі Расейскай імперыяй нашых земляў, абсалютная большасць насельнікаў Беларусі былі вуніятамі.

Да вуніяцтва людзей цягнула яго ўвага да мясцовых нацыянальна-культурных традыцый, шырокае выкарыстанне ў рэлігійным жыцці, асабліва ў часе казанняў, беларускай мовы. Існавала вялікая вуніяцкая літаратура на беларускай мове: творы Іпата Пацея, Язэпа Руцкага, Язафата Кунцэвіча. У вуніяцкіх друкарнях — Віленскай і Супраслеўскай — друкаваліся шматлікія богаслужбовыя кнігі. Вуніяцкія манастыры, якіх у XVIII стагоддзі налічвалася блізу 90, з'яўляліся буйнымі асяродкамі нашае старадаўняе культуры.

Вуніяты ў адрозненне ад беларусаў праваслаўнай і каталіцкай канфесій былі найбольш устойлівыя і да паланізацыі, і да русіфікацыі. Гэта добра ведалі Найсвяцейшы ўрадавы Сінод і афіцыйныя ўлады Расейскай імперыі. Таму, калі на парадак дня была пастаўлена суцэльная русіфікацыя карэннага насельніцтва анексаванай Беларусі, яны ў першую чаргу вырашылі нанесці смяротны удар па вуніятах. Пачалі са схілення ў праваслаўную веру самых высокіх кіраўнікоў вуніяцкай рэлігіі. І не памыліліся. У лютым 1839 года тыя падпісалі акт аб «уз'яднанні» беларускай вуніяцкай царквы з расейскай праваслаўнай. Шматлікія культурныя каштоўнасці, кананічная літаратура вуніяцкай царквы сталі аб'ектам вынішчэння, ахвярай агню.

Вернікі з абурэннем сустрэлі вестку аб далучэнні да праваслаўя, яны не жадалі маліцца паводле яго правілаў і яшчэ доўга прытрымліваліся сваіх былых царкоўных рытуалаў. Асабліва не пагаджаліся, што ў часе літургіі гучала малазразумелая для іх царкоўнаславянская мова, а казанні выконваліся па-расейску. Значная частка вуніятаў, не задаволеных учыненым гвалтам, добраахвотна далучылася да каталіцкай рэлігіі.

На ўсіх пераломах гісторыі — і падчас паўстання К. Каліноўскага, і ў пару нашага Адраджэння пачатку XX стагоддзя, і ў 2-ю сусветную вайну — у прагрэсіўнай частцы беларускага народа заўсёды ўзнікала думка аб адраджэнні вуніяцкай рэлігіі. Нямала ў яе прыхільнікаў і сёння, асабліва сярод моладзі.

Леанід ЛЫЧ.

### Што такое «Літоўская метрыка»?

Такую назву меў дзяржаўны архіў канцыляры Вялікага Княства Літоўскага. У ім захоўваліся дакументы з сацыяльна-эканамічнай гісторыі Вялікага Княства, а таксама палітычных, царкоўна-рэлігійных і культурных дачыненняў у XIV—XVIII стагоддзях. Кнігі метрыкі падзяляюцца на судовыя і публічных спраў, дзе змяшчаюцца вялікакняскія прывілеі, уставы, соймавыя пастановы, перапісы войска ды інш.; кнігі запісаў, у якіх пераважаюць вялікакняскія граматы; пасольскія, што ўтрымліваюць міждзяржаўныя пагадненні, дыпламатычную перапіску, «навукі» паслам і да т.п.: кнігі перапісаў са звесткамі пра замкі і дзяржаўныя зямельныя ўладанні; кнігі арэндаў; кнігі данін і некаторыя іншыя. Мова дакументаў да пачатку XVIII стагоддзя ў асноўным беларуская, пазней пераважна польская, сустракаецца таксама лаціна.

Сёння фонд «Літоўскай метрыкі» — гэта энцыклапедыя беларускага Сярэднявечча, без матэрыялаў якой не можа абысціся ніводны даследчык нашай мінуўшчыны. На працягу XIX—XX стагоддзяў частка матэрыялаў метрыкі была апублікаваная ў зборніках. Архіў канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага напачатку захоўваўся ў Троках, затым у Вільні, Варшаве, а зараз у асноўным у Маскве, у Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў. Да сённяшняга дня дайшло каля 600 тамоў «Літоўскай метрыкі». У сучасны момант ажыццяўляецца міждзяржаўная праграма (Беларусь, Расея, Польшча, Украіна, Летува) па яе выданні.

Павел ЛОЙКА.

### Калі быў заснаваны першы універсітэт на Беларусі?

Першай гуманітарнаю школай універсітэцкага тыпу была яшчэ грэка-лаціна-«руская» акадэмія ў Смаленску, заснаваная блізу 1130 года, і першым яе рэктарам стаў грэк Мануіл. Вышэйшаю навучальнаю ўстановаю з гуманітарным ухілам была і Віленская катэдральная каталіцкая школа, закладзеная ў 1387—1388 гадах.

Аднак першым сапраўдным універсітэтам у Беларусі сталася Віленская езуіцкая акадэмія. Езуіты, запрошаныя ў Вялікае Княства Літоўскае віленскім біскупам Валяр'янам Пратасевічам у 1569 годзе, праз год адчынілі ў Вільні — старадаўнім цэнтры беларускае культуры і дзяржаўнасці — свой калегіум, які ў 1579 годзе прывілеем вялікага князя Сцяпана Батуры быў ператвораны ў акадэмію з усімі правамі еўрапейскага універсітэта.

Кантынгент студэнтаў Віленскае акадэміі складаўся пераважна з беларусаў. Выхадцамі з беларускіх земляў былі і большасць з выкладчыкаў. Там вучыліся або выкладалі выдатныя дзеячы навукі і культуры: прапаведнік і красамоўца Пётра Скарга, паэт і тэарэтык літаратуры, «хрысціянскі Гарацый» Мацей Казімір Сарбеўскі, гісторык Альберт Віюк Каяловіч, педагог Арон Аляксандр Алізароўскі, лексікограф Рыгор Кнапскі, матэматык Освальд Кругер, філосаф Марцін Смігпецкі, выдатны класічны паэт Міхал Карыцкі, архітэктар Лаўрын Гуцэвіч, гонар беларускае барочнае паэзіі Сымон Полацкі ды інш. У розны час вучнямі Акадэміі былі дзеці беларускіх магнатаў ды найбольш знанае шляхты: Радзівілаў, Сапегаў, Пацаў, Тышкевічаў, Хадкевічаў, Завішаў. Валовічаў...

Да сярэдзіны XVII стагоддзя ў езуіцкіх навучальных установах (як дарэчы, і ў іншых каталіцкіх, вуніяцкіх, праваслаўных і пратэстанцкіх) мовамі навучання былі беларуская і лацінская. Але па меры паланізацыі шляхты з другое паловы XVII стагоддзя адбываўся пераход на польскую мову.

Апрача Акадэміі да сярэдзіны XVIII стагоддзя на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі не менш як 16 толькі езуіцкіх школаў гуманітарнага профілю, з іх 9 вышэйшых — у Полацку, Пінску, Нясвіжы, Горадні, Амсціславе, Навагародку, Воршы, Віцебску, Берасці — ды 7 поўных-сярэдніх — у Менску, Магілеве, Слоніме, Слуцку, Жодзішках, Бабруйску, Мерачы. Прычым, вышэйшыя калегіумы адрозніваліся ад акадэміі (універсітэта) не ўзроўнем адукацыі, а толькі адсутнасцю некаторых правоў, напрыклад, не былі аўтаномныя, не вызваляліся ад падаткаў, не маглі надаваць вучоных ступеняў.

На Беларусі, апроч таго, існавалі шматлікія праваслаўныя (як, да прыкладу, вышэйшая Брацкая школа ў Вільні), вуніяцкія, пратэстанцкія навучальныя ўстановы, а таксама школы іншых каталіцкіх ордэнаў — піярскія, дамініканскія, бернардынскія.

У 1812 годзе ў акадэмію з правамі універсітэта быў ператвораны вышэйшы езуіцкі калегіум у Полацку (заснаваны ў 1580 годзе). Полацкая акадэмія праіснавала да 1820 года і была зачыненая царскім урадам як «неблаганадежная». Следам за ёю быў зліквідаваны Віленскі універсітэт (у 1832 г.) і іншыя даўнія гуманітарныя ўстановы. У Беларусі не засталося ніводнае вышэйшае школы. Замест пазачыняных навучальных асяродкаў пачалі стварацца расейскія «народные училища» ды іншыя русіфікатарскія ўстановы з даволі нізкім узроўнем навучання. Дэструкцыя адукацыйнае сістэмы ішла поруч са спыненнем дзеяння Статута і дэмакратычных інстытутаў, заменай адміністрацыі, фальшаваннем гісторыі краю. Беларусь такім чынам ператваралася ў задворкі Расейскае імперыі.

Алесь ЖЛУТКА.



# Таварыства дабрачыннасці ў Стоўбцах

У Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва Беларусі ў фондзе № 3 захоўваюцца дакументы беларускіх нацыянальных арганізацый, якія ў 20—30-я гады працавалі ў Заходняй Беларусі і на эміграцыі. Пра адны арганізацыі, як, напрыклад, Беларуская сялянска-работніцкая Грамада, Пасольскі клуб, Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў і іншыя, ужо напісана шмат. Але некаторыя тагачасныя беларускія аб'яднанні яшчэ не прыцягвалі ўвагі даследчыкаў. У ліку апошніх — Беларускае таварыства дабрачыннасці, якое існавала ў Стоўбцах.

Паводле архіўных дакументаў, прыхільнікі беларускай культуры ў Стоўбцах летам 1931 года заснавалі Беларускае таварыства дабрачыннасці (БТД), якое было афіцыйна зарэгістравана гарадскімі ўладамі. Адным з ініцыятараў стварэння БТД з'яўляўся вядомы дзеяч беларускага нацыянальнага руху, ураджэнец Стаўбцоўшчыны Фабіян Акінчыц. Старшынёй БТД абралі Сабалеўскага, намеснікам — Івана Гундзіловіча, а скарбнікам — В. Каўбаску. БТД займалася культурна-асветнай дзейнасцю сярод сялянства, прапагандавала медыцынскія і гігіенічныя веды на вёсцы, аказвала матэрыяльную дапамогу бедным, сіротам, інвалідам і хворым.

З першых дзён існавання БТД стварыла ў Стоўбцах свой клуб з бібліятэкай-чытальняй, набыло радыёпрыёмнік (тады мала хто меў уласнае радыё). Клуб стаў сапраўдным асяродкам беларускай культуры, тут адбываліся грамадскія сходы, ладзіліся разнастайныя культурныя імпрэзы. Фабіян Акінчыц, напрыклад, выступаў у клубе з дакладамі на тэму: «Гурткі беларускай палітычнай думкі», «Галоўныя этапы беларускай гісторыі». Адзначым, што фармаванне нацыянальнай свядомасці ў беларусаў з'яўлялася выключна важнай задачай, бо сістэма асветы і адукацыі ў польскай дзяржаве была скіравана на апалячванне мясцовага насельніцтва. Зімой 1932—33 гадоў БТД у сваім клубе арганізавала курсы кройкі і шыцця для сялян вёсак Залужжа і Жацерава. Клуб служыў і пунктам раздачы бедным і сіротам абутку і вопраткі.

12 лістапада 1931 года ставілася п'еса класіка беларускай літаратуры В. Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта». 19 студзеня 1932 года ў Стоўбцах быў пастаўлены дзіцячы спектакль. У рэпертуары драматычнага гуртка былі і вядомыя п'есы: «Паўлінка», «Модны шляхцюк», «Заручыны» і іншыя. Працы гуртка перашкаджалі польскія ўлады. Адзін з архіўных дакументаў расказвае пра здарэнне, якое адбылося ў 1932 годзе ў Міры. Падчас спектакля група хуліганаў паводзіла сябе правакацыйна. Яны выкрыквалі, што няма беларускай мовы, няма беларускай нацыі, няма самой Беларусі... Паліцэйскі, які прысутнічаў у зале, на патрабаванні актораў наладзіць парадаку заявіў: «Естэм ту неслужбово». А яшчэ адзін прадстаўнік тутэйшай улады выказаўся больш шчыра: «Моім заданем ест вжывене культуры польскей, а не подтшымане бялорускей...»

20 чэрвеня 1932 года ў Стоўбцах БТД правяло «забаву», у часе якой на беразе Нёмана іграў духавы аркестр, працаваў буфет і разыгрывалася латарэя. Прыбытак накіравалі на дабрачынную дзейнасць.

Пры таварыстве працавалі два хоры. Яны выступалі ў Стоўбцах, па навакольных вёсках і мястэчках. Адзін з іх, пад кіраўніцтвам Гаранавіча (Гарановіча?), складаўся з 40 чалавек — жыхароў вёскі Стары Свержань. Другі (33 чалавекі) выступаў пад кіраўніцтвам рэгента Генадзя Цітовіча — пазней выдатнага музыказнаўцы, вядомага дзеяча харавога мастацтва Беларусі. 20 красавіка 1932 года з удзелам гэтых двух хораў у Стоўбцах адбыўся вечар беларускай песні. 26 снежня 1932 года таварыства правяло ў Стоўбцах святкаванне 50-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Актывіст таварыства Міхась Тулейка выступіў перад удзельнікамі ўрачыстага сходу з дакладам пра жыццё і творчы лёс пісьменнікаў. Відаць, цікавасць да імпрэзы была значная, бо ў зале прысутнічала каля 250 чалавек.

Асабліва актывізавалася дзейнасць БТД у 1933 годзе. Для сялян у Стоўбцах былі створаны курсы земляробства. Акрамя таго, вяліся заняткі па беларускай мове з дзецьмі, якія вучыліся ў польскіх школах. Сябры БТД ладзілі кніжныя кірмашы, іншымі спосабамі прапагандавалі беларускае слова — і жывое і друкаванае. У клубе актывістам таварыства Канстанцінам Ждановічам чыталіся лекцыі па гісторыі Беларусі.

БТД мела сувязі з беларускімі палітычнымі, культурнымі і асветнымі арганізацыямі Заходняй Беларусі. 30 ліпеня 1933 года агульны сход сяброў БТД пастанавіў далучыцца да Беларускага Нацыянальнага Камітэта, цэнтральная сядзіба якога размяшчалася ў Вільні... Дакументы зафіксавалі некаторыя імёны актыўных сяброў БТД. Гэта Сяргей Мяжынскі, Аляксандр Крот, П. Арцішэўскі, псаломшчык-уніят Аляксандр Цітоў, жыхары вёскі Старая Мікалаеўшчына Восіп Клімовіч, Міхал Міцкевіч і іншыя.

Спадзяёмся, што больш глыбокае вывучэнне краю непазбежна адкрые новыя факты, новыя імёны.

Юрка ВАСІЛЕЎСКІ.




*Рубрыку вядзе*

*ЛЯВОН БАРШЧЭЎСКІ*

**Творчасць Яраслава Врхліцкага (1853—1912) — этап у станаўленні новай чэшскай паэзіі.**

Ярослаў Врхліцкі

## Цень шэры на рацэ...

**Цень шэры на рацэ — ад воблакаў свінцовых —**
**Дрыжыць і па вадзе святлінкі рассявае.**
**Цень шэры на рацэ — ад бед, пакут суровых —**
**Уздымаецца ўва мне, чарней, як ноч сляпая.**

**Цень шэры на рацэ праблісквае агнямі,**
**Ды хутка шчыльны змрок атуліць наваколле.**
**Цень шэры на рацэ чарнотай думкі пляміць,**
**І песняю-вяслом ты не суцішыш болю.**

**Цень шэры на рацэ па чоўне разліецца**
**І срэбрынкі святла да берага пакоціць.**
**Цень шэры на душы адно што адаб'ецца**
**У подыху вярбін і ў сумнай іх пяшчоце.**

## Строфы

**Калі ў глыбінях мора зоркі спяць**
**І неадзетыя жанчыны,**
**Як ліры, на каленях у мужчын дрыжаць,**
**Калі навокал па далінах**
**Разносіцца звон срэбны ручаёў,**
**Калі тужлівы пошчак салаўёў**
**З грудзей іх вырываецца няспынна —**

**Міргаюць знічкі, я стаю каля вады:**
**У думках — мроі-летуценні.**
**Я — кропка ў космасе — не ведаю, куды**
**Лячу і што мяне сустрэне.**
**Адно, што ведаю,— птушыны спеў,**
**Жанчын дрыжанне, водару вясны павеў.**
**І ўсё я абдымаю ў захапленні!**

## Эклога

**Парк вечаровы вартуе алея,**
**Лісце жаўцее — цалюткія горы.**
**Ды лістападу не ціхне завея:**
**У ёй нібы чысцяцца зоры.**

**Падае лісце на поле... У сутонні**
**Гоняць паволі жывёлу,**
**Ды і зямля — быццам хіліцца скроняй**
**Зморана ў лісце, дадолу.**

**І павуціння бязважкая сетка**
**Па-над палеткам віецца асеннім:**
**Тут я хацеў бы з табой, мая дзетка,**
**Цешыцца зорак мігценнем,**

**Ціхім ляском, дзе зіма насцілае**
**Саван-туман на паляны,**
**Зззяннем вачэй, у якіх спачывае**
**Травень салодкі, духмяны...**

**Пераклад з чэшскай**
**Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.**

*Чыталі?*

# «Добрыя весці» ад Сыракомлі

***Уладзіслаў Сыракомля — яркая старонка ў гісторыі польскай і беларускай літаратуры. Вядома, што асноўны творчы набытак пісьменніка — на польскай мове. Але тэматыка яго вершаў і празаічных твораў, іх фальклорная і сюжэтная першааснова — беларускія.***

***Нічога тут дзіўнага, бо па-беларуску гаварылі ў родным яму Смольгаве (цяпер вёска Любанскага раёна), на Нясвіжчыне, на Стаўбцоўшчыне, дзе Сыракомлю давялося доўга жыць. З беларускамоўнай спадчыны пісьменніка збераглісія толькі два вершы: «Добрыя весці» і «Ужо птушкі пяюць усюды...».***

«Добрыя весці» далі імя аднатомніку выбраных твораў У. Сыракомлі, які нядаўна выпушчаны выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Укладанне зборніка і каментарыі зрабілі Уладзімір Мархель і Кастусь Цвірка (ён напісаў і прадмову «Лірнік беларускай зямлі»). Дарэчы, такая назва прадмовы — не выпадковасць, бо Людвіка Кандратовіча (сапраўднае прозвішча паэта) называлі «літоўскім лірнікам» і «песняром Літвы». Але ж пад Літвой тады мелася на ўвазе цяперашняя Беларусь. Ды і сам аўтар у адным з твораў прызнаўся:

**Пра адно я толькі спяваю, хоць на розныя ноты:**
**Хай жыве наша Літва! Хай жывуць ліцвіны!**

Думкай аб тым, каб годна жылося простаму люду на роднай зямлі, прасякнуты лепшыя творы паэта. І, зразумела, ён рэзка асуджаў прыгнятальнікаў. Пацвярджэнне таму — верш «Добрыя весці»:

**Зямля ты наша, зямля ты святая.**
**Радзі нам збожжа ды судзі пажаць,—**
**Не прыйдзе вораг з маскоўскага краю**
**На магазын наша зерне браць!**

Нельга без хвалявання чытаць вершы У. Сыракомлі, што перадаюць захапленне аўтара беларускім побытам. Як не прыгадаць тут хоць бы гэты твор — «Акраец хлеба», жанр якога паэт вызначыў як «гавэнда з наднёманскіх палёў». Як дакладна тут схоплена повязь чалавека з Бацькаўшчынай!

**Без шкла, ды з душою, што любіць і верыць,**
**Гляджу я на хлеб свой, прысеўшы вячэраць.**
**О хлебная крошка! Каб мела ты мову,**
**Паведала б столькі ты светламу свету!**
**Я бачу народнае песні аснову**
**Заусёды у крошцы маленечкай гэтай.**
**Расказваеш мне ты пра роднае поле,**
**Пра дні хлебароба, што рукі мазоліў,**
**Загон аручы, пра зямлі красаванне,**
**Пра коласа спеўнага наліванне...**

***(Пераклад К. ЦВІРКІ.)***

Тэворы У. Сыракомлі ў кнізе прадстаўлены ў перакладах вядомых беларускіх пісьменнікаў — Максіма Лужаніна, Уладзіміра Дубоўкі, Алега Лойкі, Яўгеніі Пфляўмбаўм, Уладзіміра Мархеля, Анатоля Клышкі, Хрысціны Лялько, Генадзя Кісялёва... Увайшлі ў аднатомнік і пераклады, зробленыя яшчэ Янкам Лучынам і Янкам Купалам.

Гартаючы аднатомнік, чытач мае магчымасць таксама пазнаёміцца з публіцыстычнай спадчынай У. Сыракомлі. Шмат гістарычнага, пазнавальнага матэрыялу ў краязнаўчых нарысах «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» і «Мінск», напісаных з вялікай любасцю да Беларусі, да беларусаў. Невыпадкова, як сведчыць К. Цвірка, царская цэнзура з «Вандровак...» выкрасліла якраз мясціну, дзе аўтар разважае пра высокія маральныя якасці простага люду, асмельваецца мужыкоў паставіць вышэй за багацеяў: «...не адно мужыцкае імя добра было вядома праз вякі ў сваёй ваколіцы, пакуль не з'явіліся імёны і гербы магнатаў. Калі б народ наш лепей помніў мінулае, калі б разумеў ідэі так званай гістарычнай арыстакратыі — як бы ён пасмяяўся з нашай пыхі, з таго, што мы ганарымся старажытным, трыста гадоў назад атрыманым гербам, ён, што тысячы гадоў налічвае ў сваёй генеалогіі... Наш селянін не піша і не чытае гісторыі, але, верачы ў якоенебудзь сваё паданне, з пагардай пагядае на шляхецкую расу, інстынктыўна адчуваючы, што мы — прыхадні адкульсьці, а ён — тутэйшы жыхар і гаспадар тутэйшай зямлі».

А хіба не карысна сёння перагарнуць старонкі нарысаў і артыкулаў: «Кароткае даследаванне мовы і характару паэзіі русінаў у «Мінскай правінцыі», «Дарога з Вільні ў Ашмяну», «Варвара, вялікая княгіня літоўская і каралева польская», «Валожын — мястэчка ў Ашмянскім павеце»! Гэтыя матэрыялы проста дыхаюць нашай гісторыяй, славутай беларускай даўнінай. Ёсць у аднатомніку і асобныя карэспандэнцыі У. Сыракомлі, якія ў свой час друкаваліся ў перыёдыцы.

Але прыкра, што з кнігі У. Сыракомлі «Нёман ад вытокаў да вусця», дзе маецца шмат матэрыялаў пра мястэчкі і вёскі Прынямоння, у згаданы аднатомнік увайшла толькі частка прадмовы. А ўсё ж ладны атрымаўся том, амаль трыццаць выдавецкіх аркушаў.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

*Надзённыя радкі*

*Васіль ЖУКОВІЧ*

# Шкалярова скарга, або Хто ж мы?..

*Беларус я,*
*чуць хачу я*
*беларускі гаманок.*
*Ад настаўніцы пачую,*
*як адно вядзе урок.*

*А як толькі выйдзе з класа*
*да кіёска ці да касы —*
*там ужо няёмка ёй*
*з мовай матчынай сваёй.*

*Свет багаты, свет нявузкі.*
*Дзе ж яшчэ жыве яна,*
*нашай мовы гамана?*
*У тэатры беларускім*
*(ды на сцэне.*
*А ў фае*
*рэдка чуем мы яе).*

*Чуем дыктарай-артыстаў*
*у эфіры з мовай чыстай.*
*Прыкладу няма цаны.*
*Дзе ж высокія чыны?*
*Прыклад даць маглі б міністры,*
*ды ляноуцца яны.*

*Прыклад мог бы даць цудоўны*
*ўсім нізам Савет Вярхоўны,*
*толькі ён пакуль глухі,*
*як і іншыя вярхі.*

*Хто ж мы ў гэтым белым свеце?*
*Ці задумаліся ўсе:*
*штó, калі ў пустыню вецер*
*слова продкаў панясе?!*

*Карані сілкуюць крону...*
*Беларусы мы ці не?*
*Як на белую варону,*
*не глядзіце на мяне.*

*1989—1990.*



Дарога ўздоўж Прыпяці.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛІНФАРМ.

# Адраджаюцца храмы



Найцікавейшы помнік архітэктуры XIII—XIV стст., які ахоўваецца дзяржавай, знаходзіцца ў в. Сынкавічы Зэльвенскага раёна. Гэта царква абарончага тыпу, якая ў мірны час служыла храмам, а ў перыяд войнаў — крэпасцю. У 50-я гады царкву разрабавалі. Але зараз архітэктурны помнік паступова абнаўляецца.

НА ЗДЫМКУ: царква ў Сынкавічах пасля рэстаўрацыі.

**Эдуард КАБЯК,**
**Белінфарм**
**(фота аўтара).**






**Д. Джарвіс: Калій і вадкія выдзяленні**

*Працяг. Пачатак у №№ 44, 45.*

Д. Джарвіса зацікавіў уплыў яблычнага воцату на абмен кальцыю ў арганізме чалавека і жывёл, і ён пачаў вывучаць гэту з'яву, каб лепш зразумець механізм узнікнення артрыту, спосаб яго лячэння. Людзі навучыліся адчышчаць чаинік ад накіпу пры дапамозе яблычнага воцату (1 кубак яблычнага воцату на літр вады). У працэсе кіпячэння асадак кальцыю раствараецца і выдаляецца з вадою пры спалосканні чайніка. Часам даводзіцца паўтараць гэту працэдуру некалькі разоў. Водаправодчыкі ачышчаюць унутраную паверхню катла паравога ацяплення так: бяруць 2—2,5літра яблычнага воцату з вадой, уліваюць у кацёл і пакідаюць на 2 дні. За гэты час кальцый раствараецца і яго выдаляюць пры кіпячэнні з вадою.

Усе гэтыя назіранні паказваюць, што кальцый раствараецца ў кіслаце. Пры якіх жа ўмовах кальцый з раствору пераходзіць у асадак і адкладваецца ў выглядзе накіпу на ўнутраных сценках пасудзіны? Да кіпення праверка вады на лакмус паказала, што яна нейтральная. Пасля таго як вада закіпела, рэакцыя стала відавочна шчолачнай. Відавочна, кальцый выпадае ў асадак пры змяненні рэакцыі да шчолачнай і зноў раствараецца пры кіслай рэакцыі.

У народнай медыцыне адным са спосабаў атрымання раствору кальцыю з'яўляецца растварэнне яечнай шалупіны ў яблычным воцаце. Пакладзіце ў шкляны слоік шалупіну аднаго яйка. Заліце яблычным воцатам і накрыйце слоік накрыўкай. Вельмі хутка ад паверхні вадкасці пачнуць узнімацца бурбалкі. Праз 1-2 сутак шалупіна растворыцца, ад яе застанецца толькі плеўка.

Як паказваюць назіранні, кальцый раствараецца ў кіслаце і выпадае ў асадак у шчолачным асяроддзі. А пры якіх умовах кальцый назапашваецца ў арганізме? З медыцынскай літаратуры вядома, што ў крыві ўтрымліваецца 1/4 частка пазаклетачнай вадкасці арганізма. Яна мае слабую шчолачную рэакцыю. Ва ўмовах далейшага павышэння шчолачнасці кальцый выпадае ў асадак і асядае ў тканках. Даказана, што калій рэгулюе абмен кальцыю ў арганізме. Пры пераломах, калі дрэнна зрастаюцца косці, эфектыўным з'яўляецца прыём за кожнай ядою таблеткі бурай водарасці, якая з'яўляецца крыніцай калію. А гаспадыням трэба ўлічыць, што гародніна (моркква, цыбуля, рэпа, пастарнак, памідоры, капуста і інш.) у адвараным выглядзе траціць ад 50 да 70 працэнтаў калію і такім чынам не можа забяспечыць у дастатковай меры кроў кіслатою. Калі вы, напрыклад, вып'еце ў час яды шклянку журавіннага або вінаграднага соку, то пасля яды рэакцыя мачы са шчолачнай стане кіслай. Пры такім хуткім забеспячэнні крыві каліем (поўны кровазварот адбываецца за 23 секунды) пэўная колькасць кальцыю пяройдзе ў раствор, у выніку чаго сценкі крывяносных сасудаў ачысцяцца ад яго.

## Пачутае ў Лявона

* * *

**У краме пакупнік, прачытаўшы аб'яву «Халадзільнікі прадаюцца толькі для ўдзельнікаў Айчыннай вайны 1812 года», спытаў у прадаўца:**

**— А хіба такія яшчэ жывыя?**

**— Так,— адказвае прадавец.— учора двое прыходзілі — даведку ад Кутузава паказвалі.**

* * *

**Адэса. Жонка гатуе на кухні, а муж у двары коле дровы. Раптам раздаецца гарматны стрэл. Жонка высоўваецца ў акно:**

**— Мікола, чаму страляла пушка? Што, мяса прывезлі?**

**— Ды не, гэта начальства з Кіева прыехала.**

**Праз некаторы час зноў прагучаў стрэл.**

**— Мікола, што, мяса прывезлі?!**

**— Я ж сказаў, начальства з Кіева прыехала.**

**— А што, першы раз не пацэлілі?**

З адэскага антыкварү сабраў і пераклаў на беларускую мову Пятрусь КАПЧЫК.

## Эпіграмы

*Анатоль ЦЫРКУНОЎ*

**СЕЛЕКЦЫЯ**

**Калі рашылі не лячыць**
**Усіх дурняў, а знішчаць,**
**Стаў першым дурань нож тачыць,**
**Каб справу распачаць...**

**БЕЛАРУСКАЯ «ГАСЦІННАСЦЬ»**

**Калі мову нашу госць**
**Ганьбіць з дзікай злосцю,**
**Сярод нас заўсёды ёсць**
**Памагаты госцю...**

**НЕ ЎСЕ НАВУКІ**

**Не ўсе навукі робяць нас разумнымі,**
**Вядомы вопыт з вынікамі сумнымі,**
**Калі хлусню з лухтой увесці ў норму,**
**Прымае глупства жудасную форму...**

**ЛІТАРАТУРНАЯ ТУСОЎКА**

**Літаратурныя дзялкі,**
**Як тыя рок-баевікі,**
**Што пазаўчора аб'явіліся,**
**А ўчора зніклі і забыліся...**

**БРАКАНЬЕР**

**Пакуль за аленем Антоська**
**Ганяўся ўсю ноч між стагоў,**
**Яму змайстравала Аўдоська**
**Цудоўную пару рагоў...**

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**17 ЛІСТАПАДА, СЕРАДА**

**13.30. Навіны.**
**18.25. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**21.00. Панарама.**
**23.20. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**18 ЛІСТАПАДА, ЧАЦВЕР**

**12.05. Духоўная спадчына. Перадача чацвёртая.**
**13.30. Навіны.**
**15.10. «Еўфрасіння Полацкая». Дакументальны фільм.**
**15.55. Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. XI клас. Пімен Панчанка і яго паэзія.**
**18.25. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.40. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.**
**21.00. Панарама.**
**22.40. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**19 ЛІСТАПАДА, ПЯТНІЦА**

**10.30. Метраном. «Вяртанне Станіслава Манюшкі».**
**11.25. Духоўная спадчына. Перадача пятая.**
**18.25. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.10. Навошта дадзена ўлада. Праблемы мясцовага самакіравання. Жодзіна.**
**21.00. Панарама.**
**23.15. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**20 ЛІСТАПАДА, СУБОТА**

**10.00. Паказвае Брэст.**
**11.00. Тыдзень планеты.**
**15.50. Духоўная спадчына. Перадача шостая.**
**16.15. Грамадская думка.**
**17.25. «Палесся мілае дзіця...» Памяці паэтэсы Яўгеніі Янішчыц.**
**18.00. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**21.00. Панарама.**
**23.40. НІКа.**

**21 ЛІСТАПАДА, НЯДЗЕЛЯ**

**11.10. Дзіцячы парламент.**
**15.50. Роднае слова.**
**20.00. Панарама.**

## Афарызмы

*Браніслаў ЦРНЧАВІЧ*

### Пішы так, як маўчыш

**Вольны чалавек думае так, як хоча, а есць тое, што мае.**

**Калі чалавек быў малпаю, дрэва было яму айчынаю.**

**Людзі спачатку былі братамі, пазней сталі роўнымі... Прадчуваю, аднойчы чалавек чалавеку стане нічым.**

**Наш новы чалавек, нашы новыя шляхі, нашы новыя ідэі, нашы новыя ўборы, наша новая мэта, наша новая мінуўшчына, наша новае жыццё, нашы новыя законы, наша новая будучыня, нашы новыя адносіны, наша новае выйсце, наша новае асяроддзе. Усё вакол мяне новае, а мяне ахоплівае наш стары страх.**

**Сам ты маса, а ў масе сам.**

**Пераклаў з сербскахарвацкай Іван ЧАРОТА.**

## Пародыі

**Георгій ЮРЧАНКА**

### Апошняе выйсце

***Я ведаю, што спојніцца аднойчы***
***Той дзень, калі любві маёй цяпло***
***Жніво замкне, як морак сціўны***
***вочы.***
**Людміла Забалоцкая**

**І ноч здрадліва занявесціцца,**
**Хоць ветах месяца сарві.**
**Ляціць расстайны лебедзь несціцца**
**На востраў сцішанай любві.**

**Прайсці шляхамі непазнанымі,**
**Пярэсны сцішана шукаць...**
**Цяпер дарма ключамі гбанымі**
**Святліцу шчасця адмыкаць.**

**Мінае вечнасць запаволена,**
**У мройным марыве — пажар.**
**Кілім душы хінецца скволена**
**Прад зыркай цнотаю Стажар.**

**Адрыну крыўды мімалётныя**
**У неспатоленай вясне.**
**І ляда ласкі неўмалотнае**
**Ніколі сэрца не кране.**

**Шкадобна пеністае хмеліва**
**Пральле адчайная рука...**
**І застанецца мне**
**Бружмелева**
**Набыць гарэзу-шчанюка.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 297.

МВПА імя Якуба Коласа,
Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка»,
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.
Індэкс 63865.

Наклад 7329 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 15.11.1993 г. у 15 гадзін.